STOWARZYSZENIE MUZEUM
I OŚRODEK KULTURY BIAŁORUSKIEJ
w HAJNÓWCE
17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42
tel. (085) 682 28 89
BIBLIOTEKA
Nr inwent. ...


# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 18 (1512) ГОД XXX БЕЛАСТОК 5 МАЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.


## ПУЛЬС ЖЫЦЦЯ

### ІНТЭРВ'Ю З НОВЫМ РЭДАКТАРАМ „КАНТРАСТАЎ“ ДЫЯНІЗАМ СІДОРСКІМ

**„Ніва“:** Пане рэдактар, робіце вы з заняпаўшых „Кантрастаў“ зусім новы, цікавы часопіс. У якіх кірунках маеце намер развіваць гэтыя новыя ўласцівасці „Кантрастаў“?

**Дыянізы Сідорскі:** Перш за ўсё цікавіць нас стан грамадзянскай і нацыянальнай свядомасці жыхароў нашай краіны. Наш часопіс — гэта польскі часопіс, які займаецца і будзе займацца станам гэтай свядомасці. І тым таксама, як яна фармавалася калісьці, у мінулым, што адтуль перанесена ў сучаснасць у гуманістычнай, гістарычнай, літаратурнай, грамадскай, звычаёвай свядомасці, словам, усімі аспектамі гэтай свядомасці „Кантрасты“ будуць цікавіцца. Хочам на яе ўздзейнічаць, загаспадарваць яе. Ва ўсёй польскай традыцыі нагрувасцілася мноства міфаў, часам дрэнных, часам прыгожых. Усё тое, што прыгожае, неабходна развіваць і папулярызаваць і адначасова працягваць змагацца з дрэнным.

**„Н“:** А што будзе адметнай асаблівасцю часопіса?

**Д.С.:** Хочам, каб „Кантрасты“ сталі часопісам культурнага, моўнага, веравызнаўчага паграніччa. Беласток знаходзіцца ў рэгіёне, які насяляюць розныя нацыянальнасці: палякі, беларусы, на поўначы, на цяперашняй Сувальшчыне, жывуць літоўцы, ёсць таксама татары, тут многа розных веравызнанняў. Гэтае паграніччa надзвычай разнастайнае і, як дагэтуль, каштоўныя ўласці-

(Працяг на стар. 2)



Д. Сідорскі. Фота П. Савіцкага.

## РАЗМОВА З БАЦЬКАМ

Стаю я ва ўрочышчы ў Белавежскай пушчы, дзе гітлераўцы забілі амаль 500 чалавек. Скромны абеліск, дзяржаўны герб і сосны, сосны...

Многа такіх месцаў на нашай зямлі, многа іх тут, у пушчы. Вось у дзевяці кіламетрах, ужо за мяжой, урочышча Перароў. дзе таксама ляжыць амаль паўтысячы жыхароў Белавежы і навакольных вёсак. Там закончыў сваё нядоўгае, бо ўсяго 37-гадовае жыццё мой бацька.

Каб мог ты, мой дарагі бацька, вярнуцца хаця на дзень, ці на гадзіну і ўбачыць сваімі вачыма, як змянілася жыццё нашага народу! Як рэчаіснасць апярэдзіла твае мары аб лёсе тваіх дзяцей! Марылі вы, нашы бацькі, каб удалося нам скончыць хаця б пачатковую школу. А цяпер сярэдняя стала ўжо абавязкам. А колькі сялянскіх дзяцей трапляе не толькі ў сярэднія, але і ў вышэйшыя навучальныя ўстановы!

Шумяць, шумяць сосны, наводзяць сум на душу і будзяць успаміны. Не ведаю, аб чым шумяць, але напэўна нідзе не шумяць так, як у гэтых урочышчах. Чаму менавіта табе майму бацьку, хачу расказаць пра гэтыя сорак гадоў? Магчыма таму, што мы аднолькава адчуваем і разумеем гэты скок праз стагоддзе...

Выйдзьма з гэтага сумнага ўрочышча ў Дубіну. — Ай, ай, яй! Дзівішся, што так перамянілася гэтае месца?! Няма многіх дубоў. Так густа раслі ж тут калісьці, і таму гэтае месца называлася „Дубіна“. Лясы, быццам людзі, панеслі страту ў вайну. А цяпер наваліліся на іх хваробы нашай цывілізацыі. Лісцё паменшала на іх, пакорпілася. Ці дапаможа ім чалавек перамагчы хваробу?

За Дубінай участак лесу, званы Рылёўкай. Былі тут калісьці альсы, але і яны ўжо павысыхалі. Сюды мы, дзеці з вёскі, бегалі ранняй вясной па пралескі, лотаць, лясное шчаўе. Станьма на ўзлеску. З левага боку поле. Палеткі калісьці называліся: Тры загоны, Чатыры загоны, Пяць загонаў. Але гэтыя назвы асталіся ўжо толькі ў памяці старэйшых людзей. Цяпер тут ужо хутары. Гляньма направа — гэта выган. Вочы твае шукаюць чагосьці, так... ад гэтых успамінаў уцячы нельга...

Ліпень сорак першага. Здавалася, што ўвесь свет гудзе злавеснай сілай, нясучай смерць людзям і прыродзе. Прадчуванне найгоршага жалезнымі абручамі сціскала людскія сэрцы. У адзін з цёплых ліпеньскіх дзён адбыўся першы крывавы запіс варожага панавання ў нашай вёсцы. Тут, на гэтым выгане, пад лесам хаваў ты ў нашу зямлю трох салдат Чырвонай Арміі, па-зверску замучаных фашыстамі.

(Працяг на стар. 4)

## БРАТЫ-СУСЕДЗІ

### НАЙВАЖНЕЙШЫ РЫНАК

На працягу многіх год Савецкі Саюз з'яўляецца найважнейшым рынкам збыту прамысловых тавараў і сельскагаспадарчых прадуктаў нашага ваяводства. У агульным экспарце ў СССР Беластоцкае ваяводства дастаўляе 27-30 прац. У 1984 годзе вартасць рэалізаваных паставак у СССР склала суму 2 мільярды 890 мільёнаў зл. У параўнанні з 1983 годам экспарт у СССР узрос на 13,5%. Найбольш прадаем туды вырабаў электроннай прамысловасці — 58%, спажывецкіх прадуктаў — 26% і вырабаў лёгкай прамысловасці — 15%.

Найбольшым экспарцёрам электрамашынных вырабаў з'яўляецца фабрыка прыладаў „ФПіУ-Бяль“ у Беластоку, якая ад 1972 года рэалізуе шматгадовыя кантракты.

У СССР экспартавалася таксама медыцынская апаратура, якую прадукуе даследча-прадукцыйнае прадпрыемства „Санопан“ у Беластоку.

Найбольшым экспарцёрам у галіне фруктова-агародніннык вырабаў з'яўляецца перапрацоўчы камбінат фруктаў і гародніны „ГОРТЭКС“ у Сямяцічах.

У экспарце вырабаў лёгкай прамысловасці ў мінулым годзе ўдзельнічала 8 прадпрыемстваў.

Вялікімі экспарцёрамі з'яўляюцца таксама баваўняны камбінат „Фасты“, Сямяціцкая абутковая фабрыка і Беластоцкае прадпрыемства галантарэйных вырабаў. У 1984 годзе пастаўкі з Беласточчыны ў СССР выконвала 20 прадпрыемстваў.

Варта адзначыць, што ПГР Крынкі, як адзін з трох ПГРаў у Польшчы, будзе атрымоўваць аснашчэнне — сельскагаспадарчыя машыны і абсталяванне з СССР. Першая партыя машын ужо дастаўлена крынкаўскаму ПГРу. Планы далейшых паставак былі абмеркаваны ў студзені ў Крынках на сустрэчы кіраўніцтва Міністэрства сельскай гаспадаркі з савецкімі спецыялістамі.

11 сакавіка прадстаўнікі 25 прадпрыемстваў Беласточчыны і 25 прадпрыемстваў Літвы сустрэліся ў Лаздзеях з партыйнымі і адміністрацыйнымі дзеячамі Беластоцкага ваяводства, на якім дагаварыліся аб пашырэнні супрацоўніцтва.

Міхась Хмялеўскі

**Поўнік у акне. Святло і ціш.**
**Двое нас у ціхамірнай хаце.**
**— Мама, ты чаму ж усё не спіш?**
**— Сон адзін і той жа, як закляцце.**

**Прыхіну падушачкі хатуль.**
**Цёпла мне. І ўсё-ткі — замярзаю.**
**— Мама, ён жа мёртвы і адтуль?..**
**— Не скажы! Магілы я не знаю.**

**На прыгожы твар праклаўся шлях**
**З нітачак спакою і адчаю.**
**— Мама, гэта ноч нагнала страх.**
**— Спі. А я — лучынкі нашчапаю.**

Яўгенія Анішчыц

## НА МЯЖЫ

# АБ АДЗІНОЦТВЕ І ДЗЕЦЯХ (І)

Колькі ж іх, адзінокіх, на гэтай шырокай зямлі! Такіх, што не маюць не толькі родных, але і дваюрадных, і траюрадных. Не маюць нікога, перад кім маглі б адкрыць душу, звярнуцца за дапамогай ці радай, да каго маглі б адазвацца словам. Зразумела, такім людзям вельмі цяжка, бо ўсе ім чужыя і яны ўсім чужыя, а вядома, чужы найчасцей не паможа.

Адзінокі чалавек, ведаючы аб тым, прывыкае да думкі, што ён адзін і што будзе ў стане карыстацца толькі з таго, што мае. Прывыкае да думкі, што ён сам сабе пан і сам сабе слуга. Зразумела, што калі старасць чалавеку забярэ сілы, дык тады і яго панаванне і яго ўслугоўванне маюць вельмі малую цану. У кожным выпадку адзінокі чалавек можа мець жаль толькі да лёсу або да самога сябе за тое, што не абзавёўся сям'ёй і не можа атрымаць ад яе дапамогі.

Я, аднак, хачу гаварыць аб адзіноцтве тых, хто мае дзяцей і нягледзячы на тое, што гэтым дзецям добра ў жыцці вядзецца, не можа разлічваць на тое, што яму дапамогуць.

Калісьці выступаў у вясковых грамадах маральны закон, паводле якога сын ці сыны мелі абавязак дагледзець бацькоў да смерці. Зразумела, што не ў кожнай сям'і закон гэты добрасумленна выконваўся. Бывала па-рознаму. Калі ў дом трапляла злюшчая нявестка і брала верх над мужам, дык у такіх выпадках вельмі часта страшэнна тыраніла сваіх старых цесцяў. Наогул, аднак, старыя бацькі атрымоўвалі элементарнае ўтрыманне і вопратку. Усё гэта было выключна ўбогае, так, зрэшты, як і ўсё жыццё.

Сёння стан рэчаў радыкальна змяніўся. Ніхто са старых не можа згінуць марна ад холаду ці голаду, бо вырас як з-пад зямлі мецэнат дзяржавы, якая патрабуючаму чалавеку дае элементарнае ўтрыманне. Дык у чым бяда? Бяда ў тым, што назіраецца на кожным кроку „інфляцыя“ чалавечых пачуццяў, разрастаецца рак чалавечай драпежнасці, які пралазіць таксама ў міжсямейныя адносіны. Асабліва назіраецца гэта ў тых, хто трапіў у горад і пакінуў у вёсцы старых бацькоў. Вось гэтыя новаспечаныя панкі трактуюць сваіх вясковых бацькоў і іх матэрыяльныя запасы як невычэрпны рэзервуар, базу, з якой у любы момант можна нагарнуць і яечак, і мяса, і авечых скураў на кажух, і цялячых скураў на сядзенні ў аўтамашыне. Не пагарджаюць яны і грашыма старэнькіх. Калі самі старыя занадта не рвуцца, каб даваць такім зухам грошы, дык яны намякнуць бацькам аб сваіх фінансавых патрэбах, а калі тыя пачнуць гаварыць, што тых грошай у іх няшмат, дык дзеткі выкажуць дасканалую арыентацыю і давядуць чорна на белым, што старыя столькі-та і столькі маюць на ашчадных кніжках, столькі-та і столькі павінна быць схавана ў жыце, а столькі-та і столькі ў старых панчохах. Старыя са здзіўленнем толькі міргаюць вачыма і, як выкінутая на бераг рыба, ловяць паветра шырока адкрытым ротам.

Калі і такая аргументацыя не паможа, дык маладыя могуць ужыць яшчэ больш катэгарычныя аргументы. Адзін чалавек з ваколіц Міхалова сказаў мне, што яго нявестка, выразна незадаволеная ўпартасцю цесця крыкнула: „Przecież i tak tych pieniędzy nie zabierzecie do trumny!“ Што там гаварыць — даволі цяжка знайсці контраргумент на такі ультыматум.

**Алесь Барскі**



## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### ГІГАНТЫ ЛЬНЯНОЙ ІНДУСТРЫІ

Лён з чатырох бліжэйшых раёнаў зможа прымаць і перапрацоўваць новы льнозавод, які будуецца ў Чавусах Магілёўскай вобласці. Гэта будзе самае буйное ў Беларусі прадпрыемства такога тыпу. Першы яго пускавы комплекс ужо ўведзены ў строй і даў прадукцыю.

З выхадам на поўную магутнасць завода льносаломка будзе паступаць сюды з поля, без папярэдняй вылежкі. Прамысловае прыгатаванне трасты будзе ажыццяўляцца на працягу двух сутак — у дзесяць разоў хутчэй звычайнага спосабу і без затрат ручной працы. Такім метадам новае прадпрыемства здольна перапрацоўваць у год звыш дваццаці тысяч тон саломкі і даваць больш чатырох тысяч тон ільноваланка

Падобны завод уводзіцца і ў раённым цэнтры Круглае. Цяпер у Магілёўскай вобласці ўжо дзейнічае адзінаццаць ільноперапрацоўчых прадпрыемстваў.

### БАБРЫ НА МІЁРШЧЫНЕ

У Міёрскім раёне Віцебскай вобласці, паводле ўліку 1984 года, налічваецца звыш 200 рачных баброў. А ўсяго дзесяць год назад іх было крыху больш за 20. Дзякуючы клопатам чалавека колькасць гэтых звяроў пастаянна павялічваецца. Для месца жыхарства яны выбралі рэкі і азёры з багатай раслліннасцю на беразе, асабліва лазой, дубам, асінай. Гэта рэкі Дзісна з прытокамі, Хараброўка, возера Чэраскае.

Пяць год ужо вядзецца адлоў рачнога бабра для перасялення ў іншыя раёны, але колькасць яго не змяншаецца. Работнікі Дзісненскага лясгаса пастаянна клапоцяцца, каб брыгады адлову на замацаваных участках праводзілі комплекс біятэхнічных і ахоўных мерапрыемстваў, а таксама збіралі біяхімічны матэрыял і вялі рабочыя дзённікі ў час промыслу.

### ПА ЗАКАЗУ АНГЛІЧАН

Многія практычныя, патрэбныя ў побыце рэчы і ўпрыгажэнні робяць са звычайнага шпону і лазы народныя ўмельцы Аршанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў.

Летась на адным з кірмашоў прадпрыемства з поспехам дэманстравала арыгінальны кораб з бярозавага шпону, які распрацавалі фабрычныя мастакі С. Казаны і Л. Мельнік. Да яго праявіла цікавасць англійская фірма, якая займаецца вытворчасцю і збытам такіх тавараў.

Цяпер на прадпрыемстве рыхтуюцца да вырабу корабаў з бярозавага шпону, заказаных англічанамі.

(Працяг са стар. 1)

# ПУЛЬС ЖЫЦЦЯ

васці гэтай зямлі не скарыстоўваліся, а памойму, яны — вялікае багацце гэтай зямлі. Якраз гэтая зямля, кантрасты якой маглі б і павінны быць асяродкам талерантнасці і школай талерантнасці, школай узаемнага суіснавання і стварэння гуманістычных каштоўнасцей. Кожная мова, кожная нацыянальнасць можа ўнесці вялікае багацце ў агульную культуру краіны. І як часопіс „Одра“, які выдаецца ў Вроцлаве і абапіраецца на заходняй граніцы, так „Кантрасты“, якія выходзяць у Беластоку, павінны абапірацца на ўсходняй граніцы нашай дзяржавы. Маем тут розныя аспекты паграніччa: горад Беласток знаходзіцца ўсяго ў некалькіх дзесятках кіламетраў ад дзяржаўнай граніцы з СССР і з другога яе боку таксама жывуць беларусы, літоўцы, палякі. Адвечныя праблемы — праблемы суіснавання на сённяшнім свеце надзяляюцца асабліва высокім рангам. Узмоцнены, нацыянальны рух у Іспаніі, Англіі, Бельгіі, Францыі, Югаславіі і ў многіх іншых краінах з'яўляецца прычынай таго, што гэтымі справамі цікавіцца ўвесь свет. Справы ўмення сужыцця і супольнага стварэння сучаснага жыцця рознымі нацыянальнасцямі, з рознымі мовамі, веравызнаннямі, традыцыямі — гэта надзвычай важная праблема, амаль найважнейшая праблема нашых часоў.

**„Н“:** Інтэрв'ю з прафесарам А. Краўчуком, як і іншыя публікацыі ў двух нумарах новых „Кантрастаў“, сігналізуюць, што ў вашым часопісе належнае месца будуць займаць справы польска-беларускага паграніччa, у тым ліку і справы беларусаў на Падляшшы. Як вы гэта намерваецеся ажыццяўляць?

**Д. С.:** У сувязі з тым, што „Кантрасты“ хочуць быць часопісам паграніччa, то, вядома, з поля назірання не могуць знікнуць і беларусы, якія асабліва ў Беластоцкім ваяводстве з'яўляюцца вельмі вялікай групай грамадзян нашай дзяржавы. Хочам прысвяціць ім многа месца. Аднак, не маем намеру ставіцца да іх як да гета, г.зн. як да чагосьці выдзеленага і адасобленага, а хочам ставіцца як да ўсіх іншых, не аддзяляць іх. Зразумела, часам могуць выступаць зусім асаблівыя праблемы, бо ў іх іншыя звычаі, іншыя традыцыі. Яны будуць у нас цалкам раўнапраўнымі і не будзе нейкага спецыяльнага „куточка“, спецыяльна ім прысвечанага. Будзем разглядаць гэтыя справы як у гістарычным, так і ў сучасным аспекце. Здаецца мне, што ў гэтай дзялянцы многа спраў трэба пераацаніць, шмат міфаў развеяць і развянчаць розныя хадзячыя апініі, якія часта абапіраюцца на фальшывых суджэннях, плётках або надта ж мізэрных ведах. Якраз неабходна тыя праўдзівыя веды давесці да свядомасці ўсяго грамадства. Проста, трэба ўзбагачаць людзей ведамі пра сваіх суседзяў, бо мы жывём па-суседску. Не толькі вёскі жывуць па-суседску, нават у тым самым сяле жывуць побач адны, другія і трэція, на той самай лесвічнай клетцы знаходзяцца кватэры людзей самых розных нацыянальнасцей і культур. Таму неабходна бліжэй пазнаёміцца, а не цурацца адзін другога. Бо і ў мінулым беларусы і палякі патрапілі ў згодзе паміж сабою жыць. Мабыць, гэта адзін з рэдкіх прыкладаў, калі два народы зусім мірна суіснавалі з сабой. Вядома, здараліся ў гісторыі таксама і драматычныя выпадкі, але яны — выпадковасць, а не правіла. І будзем узбагачаць пра гэта нашыя веды, ужо ў чэрвеньскім нумары змяшчаем эсэ М. Рагаўскай „Беларусы вачамі пілсудчыкаў“.

**„Н“:** Ці плануеце наладзіць супрацоўніцтва з Савецкай Беларуссю і Савецкай Літвой?

**Д. С.:** Так, маем намер наладзіць сталую сувязь і з адной і з другой рэспублікамі, з такімі ж тамашнімі часопісамі, як нашыя „Кантрасты“. Уступныя размовы ўжо праведзены. Хочам арганізаваць сталы абмен матэрыяламі, якія адлюстроўваюць жыццё ў гэтых рэспубліках.

**„Н“:** Раздзел „Замежны рэпартаж“ вы адкрылі ў новых „Кантрастах“ жамчужынай беларускага літаратурнага рэпартажа — творам нядаўна памёршага, на жаль, Уладзіміра Караткевіча. Ці будзеце працягваць гэты добры пачатак?

**Д.С.:** Безумоўна, так! Можа не ў кожным нумары знойдзецца месца на замежны рэпартаж, бо „Кантрасты“ малыя па аб'ёму. Але маем надзею, што нам удасца павялічыць наш часопіс. І тады больш шырока будзем адлюстроўваць жыццё і будзе магчымасць больш месца прысвяціць замежнаму рэпартажу.

**„Н“:** Якія планы „Кантрастаў“ на бліжэйшы і далейшы час?

**Д.С.:** Наш часопіс павінен быць жывым, пульсуючым і звязаным з тым жыццём, якое плыве дзень за днём. „Кантрасты“ ўжо па традыцыі — гэта часопіс літаратуры факта, рэпарцёрскі часопіс. Аднак калі раней рэпартаж быў самамэтай „Кантрастаў“, то цяпер змяніліся адносіны да рэпартажа. Літаратурай факта хочам карыстацца як інструментам, а не дзеля самамэты. Праблемы паграніччa, вядома, — гэта толькі адно крыло нашага часопіса. Усведамляем сабе, што нашыя „Кантрасты“ не кніга, і таму будзем прапанаваць нашым чытачам цікавыя матэрыялы ў займальнай форме, падаваць усё не толькі з гладкага, лірычнага боку, але таксама з таго, які называецца адхіленнем, дэвіяцыяй. Таму, напрыклад, у „Кантрастах“ паяўляюцца крымінальныя публікацыі. Словам, у нашым часопісе будзе дамінаваць сучаснасць. Мы, напрыклад, адразу заняліся справай Падляшскага універсітэта ў Беластоку. „Кантрасты“ будуць змагацца за яго профіль, бо нельга задаволіцца пабудовай сценаў, а перш за ўсё трэба стварыць праграму гэтага універсітэта, каб ён быў адпаведны, адзіны і непаўторны.

З вялікай пашанай адносімся да ўсіх нашых чытачоў і да тых адгалоскаў і лістоў, якія яны да нас накіруюць, і ўсё тое, што магчыма надрукаваць, будзе змешчана на нашых старонках.

**„Н“:** Новаму рэдакцыйнаму калектыву „Кантрастаў“ зычым вялікай удачы.

**Гутарыў М. Гайдук**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 312

## БАРАВЫЯ

*Канраду Кастанчуку*

Быў сабе Бораў-дзік.
Араў і гарадзіў,
Карэнне варочаў.
Багно прагна паравала
Пад Баб'яй гарою.
Брат Мядзведзя лічыў соты,
Сачыў за куніцаю,
Валачыў валуны
Па дарозе ў Пасекі.
Сонна Нарва плечы грэла,
Сцёбала лазою.
А цяпер бераг ёй
Вачэй вышэй падымаюць.
І схаваецца яна, прытуліцца
Да дна, дзе пясочак
Перамуляны,ператоптаны
Нагамі Баровымі,
Лапцямі ліповымі.

**Міра Лукша**

## ЧАРАДЗЕЙСКІ

Адзін птах
ляцеў
сярод ніў,
Над раўнінаю
соннаю
плыў...
У блакіце купаўся
агню,
Сумну гору
піў у хмарах
сваю...
Ля мяне
пяро ўпусціў...
Я падняў...
І зрабіў з яго...
...верш....

**Юрка Трачук**

## ШАЛІНОЎКА

Ападае шаліноўка,
Ападае з галавы.
Пахілілася галоўка,
Шчокі грэюць рукавы.

У акне галоўка тая
Ноч вітае завідна.
Зноў кагосьці выглядае,
Б'ецца з думкамі адна.

А ў суседа зноў музыкі,
Смех гарэзлівы чуваць.
Пачынаюць з пераклікам
Маладзіцу запіваць.

Хутка коцяцца хвіліны,
Нібы злодзей, час крадуць.
Набягаюць успаміны
Поўных радасці гадоў.

Вечар чахне. Ноч святая
Тушыць рэдкія агні.
Ды хаця не дачакае,
Будзе ў думках бараніць.

**Л. Танкевіч**

## ПАЎТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

429

Для чалавека гонару сумленне — ветразь; для жуліка — якар.

430

Чалавек, якому здаецца, што мае адказы на ўсе пытанні, тыя людзі, якія маюць пытанні, не павінны дапускаць да адказаў.

431

Чалавека, які мае болей адказаў чым пытанняў, не павінны слухаць людзі, якія маюць болей пытанняў як адказаў.

**Алесь Барскі**

**ЯН ЧЫКВІН**

## СВЕТЛЫ МІГ

Трымае лес над галавой вянцы.
Журліва-светлы перадасенні міг...
Праз прызмы дрэў бягуць ганцы
Салярыс грэйнага яшчэ для нас дваіх,
На нас дваіх вось гэты шчасны міг!

Як ластаўкі мы, што ў палёце адчайным
Крылышкаюць над чужародная ім гладдзю вады —
Душой імкнемся ўвысь, ляцець абы-куды,
За гэтым сном з адкрытымі вачамі,
Убачыць яснасць з боку тайнай цемнаты...

## ЛЯ БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

Мякчэла ноч. Вільготнымі губамі,
Сям-там ужо раздзьмухаўшы святло
Свежай раніцы, пахучая атава
На паплавах ляжала, быццам палатно.

З імглы ўсплывалі дрэваў абеліскі
І піраміды клуняў — ціхіх, тайных скрозь...
Ды раптам дзесьці побач конь жывы запырскаў,
Як папярхнуўшыся чужой ядою хтось.

І ні душы кругом — хто кволае цяпло
Вясняных золакаў на ўзбярэжжы пушчы
Рукамі паскладаў бы ў прамяністы стог,
Снапы калоссем вонкава мацуючы.

## МАЙ

Шумна-зялёны мой май,
Як жа даўно цябе маю!
Даўжэй, даўжэй калыску дзён маіх гайдай,
Далей, далей вядзі мяне па белым краю.

Я — голас твой, я — першы ўздых вясны,
Калі яна падымецца з карэнняў
І, наліваючы цяпло ў пасудзіну раслін,
Спаўняе таямніцу зноў маяхрышчэння.

З напору светлай вільгаці будуецца зялёная павець,
Шматпавярховы дом прыроды самап'янай...
Заняўся бэз агнём і круглы месяц будзе фіялець
І разам з ім і я ў вячэрнім сіласе духмяным.

## САД

Сад мой, садок,
Душа найлепшая з душ,
Прыбяжы да мяне ў Беласток
У белай кашулі груш.

Зялёным сваім нутром
Надыхаеш даўніх мне сноў.
З ветрамузычных кустоў
Запалымнее цяпло.

З пахучых рук тваіх
Ссыплецца звон-цішыня
На пажыццёвы мой міг,
На другую палову дня.

І твой пчаліны фэст,
Як гэтага дня благавест...
Ды не сарвецца з карэнняў мой брат,
Апшчаслівулены сад!

* * *

Ды ўсё здаецца, што вось-вось
перад натоўпам з'явіцца Хрыстос —
ачысціць душы з мроку і турбот
і новы свет спашле ў народ,
які без сілы і без волі,
як кол ушчэмлены ў гаю бяроз,
не зашуміць каронаю ніколі,
пакуль не зміласцівіцца...

* * *

Зялёным агнём набрыняла трава.
Гэта радасць вясны, а мяне там няма.
Ходзіць вецер па полі на тонкіх нагах.
Гэта песня зямлі, а мяне там няма.

Праз дзён пясок і каменне начэй
Прарастае сляза гарадскіх вачэй.

**Ян Чыквін**

## СКАРГА НА ГІСТОРЫЮ

Пішу я скаргу на Гісторыю, бо яна нам, як пані тая вялікая!

А мы ж так верна ёй служым працаю потнай ды і адданнем цалюткім, і ўсенька, што толькі трэба, робім жа і робім. Целам і душою парабкуем з кідкай ахвочасцю на тых прасторах ейных без канца і краю, колькі адно змогі тае ў жылах маем. Нават і не прызнання банкетнага за тое ад яе мы чакаем, але каб ласкава хоць слоўца мілае пачуць на сконе дзён сваіх. Без абразы і з надзеяй шчыра-сардэчнай пазіраем на палацы гэтыя ж светлаваконныя, прадзедамі нашымі чорнарабочымі яшчэ ўзбудаваныя тут, у якіх грымяць аркестры гадавінныя ды па-бальнаму святкуюць дзеля векапомнасці ўдачы ўсё чужыя, аднак жа. Часам і мы возьмем ды закруцім польку „Янку“ на радасць плебейскую ў наваселле новабагатае, і тады даверліва пэўнімся ў тым, што моцна пашанцавала людзіну таму нашаму якраз вылупіцца, нарэшце, на свет белы, калі скінулі спачатку хамут яму з шыі замуленай да лішаёў, а потым бізун цівунскі адабралі з рук падпанка ягонага. І здзіўляемся, што ніхто чамусьці не віншуе нас са шчаслівасцю гэтакай, ды і самі мы, бадай, — здогадам не дурня аб тым, што няма чым хваліцца, — тоімся з ёю ж патроху, бы з грашом нейкім дарагім, усё роўна што той, хто спападаў быў выпадкам яго на тракце карэтамі ўезджаным.

І Гісторыя вось зусім не намерана перастаць быць паняй нам, можа, і добрай такою цяпер, як гэта некалі ў Беларусі бывала, і таму, здаецца, а чаго ж больш хацець?

Мачачкай мы яе клікаць гатовы, па навыку кроўным ад дзецюкоў колішніх у світцы ды лапцях векавечна, і ад таго ж таксама крыўдаванне камяком расце мне ў горле, бо не надта каб справядлівай яна ёсць дзецям родным, а найменшанькае з іх, беларускае, даўно павінна да грудзей прытуліць, песню часу і яму праспяваць. Але дзе там, усё пра старэйшых думае і калоціцца, пра іх гэта клопат увесь яе без упыну, ды што лепшае ім жа падсоўвае, быццам жыць яны іначай не змаглі б.

Сэрца ад жалю паліць, а ў душы ные нешта нясцерпнае, і свет клінам мне сыходзіцца.

Я поўны скаргаў на Гісторыю!

**Сакрат Яновіч**, 1985 г.

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

### РОЗДУМЫ ПЕРАД ВЯЛІКІМ СВЯТАМ ПРАЎДЫ

Якія ж мы? Ці паводзім сябе як трэба? Як добра было б, каб людзі нашы менш думалі пра ўласныя справы, а каб глыбей прыглядаліся да тых, хто побач. Каб адпачылі ад пастаяннай бегатні за славай, кар'ерай, нажывай. Не пазвольма заліцца жоўцю, не станьма сохнуць з завісці, не пераступайма дарогі людзям чэсным і сумленным і не спіхайма слабых у прорву!

Чалавек чым больш ведае асноўныя нормы права, чым больш мае для іх пашаны, тым вастрэй будзе выступаць супраць усялякіх парушэнняў іх, будзе старацца змагацца са злом. Права выхоўвае чалавека. На жаль, у кожным грамадстве ёсць людзі, якія не выконваюць норм права. Трэба пастаянна і ўсюды нам навучаць людзей нормам і законам права, пастаянна павышаць узровень асветы і грамадзянскай свядомасці, навучаць права ў школах.

Паявілася ў нас у апошнія гады шмат розных „барацьбітоў за праўду". Толькі чаму яны такія сляпыя і не бачаць сярод нас столькі цікавых, добрых людзей? Чаму не цэняць вялікіх дабрадзействаў, якія маем? А таму, што гэта людзі і гэта дабрадзействы нашы. Каб яны былі чужыя — о, так, тыя „барацьбіты" іх тады ўбачылі б. Вось перад намі 40-ая гадавіна Перамогі, якую адваяваў савецкі народ разам з польскім. Колькі гэта каштавала? Знаюць пра гэта героі, якія гэтае пекла перажылі, якія абліваліся потам і крывёю і якія неслі нам усім, усім нацыям дарагую свабоду. Сярод іх ёсць і нашы падляшскія беларусы, у маёй надбужанскай вёсцы Турне Вялікай — Ян Кічко, а ў Турне Малой — Пётр Мудэль. І такім слава ў дзень найбольшага свята — свята Перамогі над вайной.

**Анна Мучко**




### ПАКЛОН

(у дзень 9 мая)

Абсохлі палі з крывавай расы,
Вочы абсохлі ад слёз.
Замоўклі кацюшы, гармат галасы,
І танкавых скрыгат калёс.
Далёка асталіся лютыя дні,
А нам не забыцца вайны.
Помнім, як стрэхі трашчалі ў агні, —
Ад зарыва відныя ночкі былі.
Як рваўся снарад каля ног,
Як роем кулі свісталі,
Салдат хоць часамі ісці ўжо не мог,
Не прасіў, каб страляць перасталі.
Ішоў як бура, у полымях неба,
Праз гора, слёзы і кроў.
Фашыста дабіць было трэба,
Каб нас не трывожыў ізноў.
Зямля прытуліла многіх сяброў,
Асталіся на шляху вайны.
З сабою забралі тугу і любоў,
А жыць і любіць хацелі яны.
І хоць абсохлі вочы ад слёз,
Цячэ без крыві ўжо рака,
Будзем старацца, каб не зарос
Шлях да магілы змагара.
Тым, што пускалі цягнікі ў адхон,
Што здабывалі свабоду крывава.
Сёння нясем наш нізкі паклон.
Слава ім, слава, слава!

**Лугайка**

# ПРАЦАВІТЫЯ І ЗГОДНЫЯ

Працавітасць, гаспадарнасць і пры ўсім гэтым вялікая гасціннасць — гэта асноўныя рысы людзей нашай зямлі. Яны таксама адзначаюцца памяркоўнасцю і жыццерадаснасцю. У сямейным жыцці характэрны згода і ўзаемаразуменне.

Зінаіда і Іван Дунікоўскія з вёскі Кнарыды на Бельшчыне ў гэтым годзе святкуюць сваё „сярэбранае вяселле". За дваццаць пяць гадоў супольнага жыцця сваімі працавітымі рукамі стварылі яны на роднай зямлі багатую ўласную гаспадарку і шчаслівы сямейны дом. Абое нарадзіліся і цэлы час жывуць у роднай вёсцы. Жыць заўжды ў родным месцы — гэта бадай найбольшае чалавечае шчасце. Дзяцінства Зіны (тады Базылюк) і Вані Дунікоўскага было падобнае. Цьмяна ўспамінаюцца ім вобразы з ваеннага часу: усё вынесена з хат, людзі з вёскі ўцякаюць у лес і там начуюць, паляць вогнішчы...

Пад канец вайны нейкі час у Кнарыдах жылі салдаты-франтавікі Савецкай Арміі. Перад баявой дарогай на захад тут, у сялянскіх хатах, знаходзілі яны адпачынак. Збіраліся на вечарынках. Мясцовыя жыхары цёпла прымалі сваіх вызваліцеляў. Тады чатырохгадовая дзяўчынка Зіна спявала ім „Кацюшу" і танцавала прад імі „Казачок".

З таго часу мінула сорак гадоў. Цяпер тая самая Зіна з'яўляецца вядучай постаццю харавога калектыву „Бярозкі" ў гэтай вёсцы. Зіна любіла заўсёды спяваць: у школе, на лавачцы пад вязам, калі моладзь у веснавыя вечары збіралася на „рогулькі", а потым і пры кожнай нагодзе. Некалькі гадоў таму назад на вясковай урачыстасці былі прадстаўнікі адміністрацыйных улад з гміннай управы. Жанчыны з Кнарыд спявалі народныя песні. Хтосьці кінуў думку, што варта было б стварыць мастацкі калектыў. Пані Зіна была старшынёй гуртка вясковых гаспадынь і арганізацыю калектыву ўзяла ў свае рукі. Неўзабаве адбыліся хрысціны „Бярозак". Пад інструктарскай апекай Міхася Артышэвіча „Бярозкі" паспяхова выступаюць ад таго часу на нашай культурнай ніве. На жаль, у самадзейнасці не абыйсціся без клопатаў і цяжкасцей, але хочацца верыць, што „Бярозкі" пераадолеюць іх.

Вернемся аднак да нашых юбіляраў. Першыя пасляваенныя гады... Апрача вучобы ў школе, трэба было працаваць на бацькоўскай гаспадарцы. Дзеці пасвілі кароў, збіралі сена, ураджай і шчыра палюбілі зямлю-карміцельку. Жылі ў адной вёсцы, добра зналіся. Пакахалі адзін другога. У лютым 1960 года пажаніліся. З прыемнасцю ўспамінаюць марозную нядзелю, калі шыткамі ехалі да царкоўнага вянца ў Боцьках. На палях іскрысты снег, а вяселейка з песняй едзе ў сяло.



Вёска Кнарыды. Фота Я. Целушэцкага.

У штодзённай працы на гаспадарцы і ў сямейнай згодзе мінулі гады. Выхавалі двух сыноў: Юрку і Грышу. Спачатку Дунікоўскія жылі з бацькамі. Потым пабудавалі ўласны дом і гаспадарчыя будынкі. Гаспадараць на дзевяці гектарах зямельных угоддзяў IV і V класа. Цяпер гадуюць двое коней, пяць кароў, больш дзесяці свінней. У мінулым годзе купілі трактар. Гаспадарка вялікая і пры недахопе сельскагаспадарчых машын надалей трэба цяжка працаваць, але гаспадары не наракаюць. Жывуць заможна. Жылы дом з водаправодам і цэнтральным ацяпленнем. У доме і на панадворку чыста і парадак. Калі запытаў я іх аб клопатах ці патрэбах, то гаспадары сказалі, што працай і згодай можна дасягнуць усяго, што трэба чалавеку. Да пяці кароў, праўда, патрэбная электрадаілка, купіць няма магчымасці, аднак яны гавораць: „Прасіцца па знаёмасцях не будзем".

Сямейнае жыццё Зінаіды і Івана ўкладаецца таксама памысна. Яшчэ ў добрым здароўі іх бацькі. Дружна жывуць са сваімі братамі і сёстрамі. Найбольшая іх радасць — гэта сыны. Старэйшы Юрка працуе ўжо ў Бельску ў ВССе, а малодшы Грыша вучыцца ў сярэдняй школе ў Беластоку.

— Ён у нас спартсмен, — гаварацца бацькі і паказваюць сынавы ўзнагароды і медалі са спартыўных спаборніцтваў. З'яўляецца ён чэмпіёнам Спартакіяды школьнай моладзі ў скачках у даўжыню. Вучыцца таксама добра і хоча вучыцца далей ў Акадэміі фізічнага выхавання.

У сям'і Дунікоўскіх адна жанчына і яна ўмела вядзе дом і кіруе гаспадаркай. Пані Зіна ўзнагароджана значкамі „Заслужаны працаўнік сельскай гаспадаркі" і „За заслугі для сельскагаспадарчых гурткоў". Муж цэніць грамадскую дзейнасць сваёй жонкі, якая адначасова добра вядзе свой дом. Яе кулінарныя здольнасці славяцца ў наваколлі. З нагоды свайго юбілею Дунікоўскія падрыхтавалі застолле. Госці з задавальненнем святкавалі разам з юбілярамі іх „сярэбранае вяселле". Сярод іх усе члены сям'і і жанчыны з „Бярозак". Як жа прыгожа і міла для душы плывуць народныя песні на такой сустрэчы!

Зінаіда і Іван Дунікоўскія свой юбілей святкуюць у добрым настроі і з пачуццём задавальнення з жыцця. Іх пастава добра сведчыць аб характары людзей нашай зямлі. Жадаем ім далейшага шчаслівага і спакойнага супольнага жыцця!

**Ян Мордань**

## ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ

# ЛЯ РАЗБІТАГА КАРЫТА

Перапынілі хлопца.

— Эй, слухай, — падняў руку палітрук, — хто тут жыве? — паказаў рукою лясны хутар.

Юнак злез з ровара і дапытліва паглядзеў на гэтага чалавека ў парванай і невядомай яму ваеннай форме лётчыка-афіцэра. Зразумеў, што перапыніў яго нейкі савецкі салдат, яго нацыянальнасць выяўляла звонкая і чыстая руская мова.

— Ну, чего же ты молчишь? — дакорліва зноў адазваўся палітрук.

— А што ж мне гаварыць? — таксама па-руску стараўся адказаць гэты юнак, але ў яго вымаўленні прабівалася мясцовая беларуская гаворка. Афіцэр чамусьці павесялеў.

— Ты рускі?

— Не, мы тутэйшыя, жывем на хутары. Вунь там! — паказаў бацькоўскую хату.

— А паесці ў вас што-колечы знойдзецца? — прагна праглынуўшы сліну, запытаў палітрук. Хлопец маўчаў.

— Ну, хаця б кубак малака і нейкую лусту хлеба...

— Зараз я ў мамы папытаю, — адказаў хлопец і накіраваўся назад на хутар. Цётка Юля не паскупілася. Частавала галодных лётчыкаў чым магла і мела.

— То ж і наш старэйшы сын, Ванька, з вайны не вярнуўся, — плакала, напаўняючы кубкі малаком. — Яго палякі прызвалі ў армію. Мелі мы вестачку, што ў нямецкі палон папаўся... Ешце на здароўе. Можа і табе, сынок мой, хто спагадлівы кусочак хлеба не пашкадуе...

— Супакойся ты, баба! — перапыніў яе строгім словам муж Лукаш. — І без твайго галашэння галава лопае ад думак розных! Вось для прыкладу, — ён звярнуўся да палітрука, — растлумачце мне, таварыш афіцэр, што чаўпецца?

— Гэта здрада, дзядзька, — адказаў яму палітрук. — Хтосьці нас прадаў. Інакш не магло б быць, каб усё так раптоўна рухнула! Столькі людзей, столькі ваеннай тэхнікі загублена!

Дзядзька Лукаш не вельмі даверліва паглядзеў на сваіх нечаканых гасцей. Здрада? Якая здрада? Хто каму здрадзіў? А, можа, і праўда, бо ён жа сам бачыў і танкі, і гарматы, і аўтамабілі, і тысячы салдат, якія блукаліся туды і назад без аніякага парадку. — Ану вас!.. — сплюнуў дзядзька Лукаш, загнуўшы ў думках грубым матам. — Не для майго мужыцкага розуму гэтая праўда! І сапраўды, адкуль яму, гэтаму звычайнаму беларускаму селяніну, было ведаць аб справах, якія вырашаліся за тоўстымі сценамі кабінетаў і ў штабах, ваенных разведак розных краін. Нават гэтыя афіцэры не маглі тады ведаць, за што і ча-

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

### I

— Ты лепей у ніякую крытыку не лезь. Нашто табе пасля ў злосці маюць пляваць следам? Або яшчэ горш. Не ведаеш ты, каго зачапаеш, хто за кім стаіць. Сунеш палачку ў муравейнік, а мурашкі пасля цябе да касцей абгладаюць, і жыцця меці не будзеш. Добра яшчэ, калі ты адзін, жонка-дзеці на карку не вісяць, то хоць і міністра крытыкуй. Малады нічога не баіцца, бо і думае мала аб небяспецы, свет хоча палепшыць, усё на сваё месца перастравіць. Але так падумайма: усё так на свеце стаіць, як стаіць, век векам, і свет якось не варушыцца. Век векам жа былі зладзеі, ілгуны, ашуканцы, хамы і іншыя сволачы, ну і што? Відаць, гэта нейкае правіла, што ёсць такія людзі, а іншыя — гэта тыя, якіх яны абкрадаюць, забіваюць, ашукоўваюць, трывожаць. І паглядзі: ці той ашукваемы не імкнецца да таго, каб яго не ашуквалі? Імкнецца. А найлепшая абарона — атака. Бо як даеш сябе другім ты — значыцца ты дурак на чым свет стаіць. А сам ашукаеш — пазлуюць, скажуць „хітры“, зненавідзяць цябе, але будуць баяцца. З пашанай нейкай будуць адносіцца, бо ты ўжо не такі апошні асталоп, і грошы маеш, і хтось можа стаіць за табою мурам, бо калі ты ўжо не баішся кары, то чорт цябе знае, можа ты ўсё ўжо можаш? І не дай Бог цябе пакрытыкаваць! Цэлы свет стаіць на ашуканстве, і што нам, малым чалавечкам, свет варочаць. Ано дастанеш палкай па галаве, калі такі маладзец, а пад старасць і прыціхнеш, грызучы сваю рэпку на печцы. Задаволены хоць, калі табе цёпла і ў задніцу не таўкуць.

...Так, я маю вопыт.

### II

— Напэўна, калі ты хочаш свет палепшыць, то і сілы мусіш мець, і конскае здароўе, і нічога не баяцца. Знаеце, я вельмі перажываю цяжкую атмасферу. Гэта тады, калі людзі воўкам адзін на другога глядзяць, калі адносіны непрыемныя, неспадзяваныя, трудныя здарэнні. Я прывыкла ўжо жыць паціхеньку ды памаленьку: хата, работа, спакой. На рабоце працую ўжо пятнаццаць год, усіх ведаю. Працую нядрэнна, стараюся, не сваруся. Маю такія прынцыпы, якіх ніколі не пераступлю, і гэта знаюць мае сябры і калегі. Уступлю калі-некалі ў малаважных справах, але гэтага вымагаю і ад іншых. Мая пазіцыя на рабоце сталая, мяне шануюць, і гэта пазваляе мне спакойна жыць. Не скажу, спачатку было даволі цяжка, але я паказала свой характар і свае веды. Умела я бараніць свае рацыі, бараніць умела, цвёрда. У нас на рабоце многа было маладых, якія не баяліся крытыкаваць, ды і час быў добры для канструктыўнай крытыкі. Цяпер маладыя многа гавораць, а аб'ядначца вакол праўды не ўмеюць... А я, ведаеце, ужо аслабела. Не ў сілах, не, але прывыкла да таго, што няма такіх спраў, у якія я б кідалася, бы ў рэчку, галавою. І добра мне... Я даволі шчаслівая, задаволеная сабою. Гэта, можа, мінула мая бурная маладосць... Бачыце, раззлавацца на сябе прабую, давесці да плачу. Так... Прывыкла ўжо.

### III

— Ну і што? Многа з гэтага маеш? Ты пішы, пішы, друкаванае слова ў сабе мае тое, што гэта дакумент, і нават пасля смерці можаш сабе ворагаў нарабіць. Многа табе з таго прыйдзе, што пару ананімных чалавек цябе пахваліць! Ты ж прозвішчам падпісваешся. Гэта як пад кулі лезці ў чыстым полі. Можна пакрытыкаваць, чаму не, між сябрамі, пры водцы, скажам, часам выступіць на сходзе, калі людзі стаяць за табою, але во так вылазіць, бы дзікая качка? А чорт яго знае, хто страляць будзе? Можа нават з-за вугла, як той казаў. Ай, папала ты, дачушка! Вось дык прафесія — хадзі і толькі шукай, да чаго прычапіцца, што паправіць, каму ў зубы папасці. Чырвоная Шапачка здалёк ваўку відна... Ты цяпер што, многа сілы і адвагі маеш? Што, хочаш можа разам са мною на ваўка ісці? Эх, свае лета я ўжо маю, які з мяне памочнік... Ведаеш, аднак, зайздрасць мяне трошкі бярэ. Дай Божа скінуць мне з плячэй годзікаў сорак! Папалялі б мы на ваўка! Ой, трэснулі б яго па зубалях! Добрыя былі гады, калі я не баяўся ні кулі, ні чалавека, ні сябе. Бач, раны зажылі. Ад воўчых зубоў, ад людскіх нажоў. Не то, што цяпер, адвагі ці сілы няма. Стары я ўжо, змучаны жыццём чалавек. Няхай іншыя б'юцца за праўду. Ідзі, ідзі, не слухай мяне, пакрыўджанага жыццём чалавека. Ідзі сваёю дарогай... Не саромеюся я сваіх ранаў, пражыў я жыццё як умеў, для людзей сябе не шкадаваў. Дай Бог, можа хоць аднаму памог. Ідзі...

**Міра Лукша**

## ЧЫРВОНАЯ ШАПАЧКА



---

му яшчэ ў даваенны час загінулі такія выдатныя палкаводцы Чырвонай Арміі, як маршалы Савецкага Саюза Міхаіл Тухачэўскі і Васіль Блюхер ды сотні іншых невядомых нам савецкіх камандзіраў. Цяпер мы гэта ведаем, бо сталі разумнейшымі вопытам пройдзенага часу, крытыкай выяўленых памылак і дапушчаных злачынстваў. Але тады, у чэрвені 1941 года, што мог ведаць нейкі там палітрук і лётчык-афіцэр? Рабілі яны часта няправільныя вывады на аснове ўсяго таго, што тварылася на іх вачах. А тварылася — трагічнае. Іх свет, сэнс і сутнасць іх жыцця правальвалася скрозь зямлю. І трэба было самай глыбокай, проста сляпой веры ў неўміручую сілу свайго народа, у пераможную вартасць ідэі, якой яны служылі, каб паверыць, каб мець надзею, што ён, гэты народ, усё ж-такі будзе святкаваць сваю перамогу.

— Супакойцеся, дзядзька! — вяртаючы Лукашу апарожнены кубак, сказаў палітрук. — Гісторыя вучыць, што яшчэ нікому ніколі не ўдалося пакарыць Расію.

— А татары трыста гадоў над рускімі панавалі! — запярэчыў дзядзька Лукаш, каб паказаць гэтым чужым ды разумным людзям, што і ён не такі ўжо дурань.

— І што з гэтага іхняга панавання! — уключыўся ў спрэчкі другі афіцэр. — Усё ж мы верхам сталі. Напалеон, нябось, нават і Маскву заняў, а пасля, як уцякаў! І з Гітлерам таксама будзе!

— Дай Божа! — неяк стрымана, паціху, уздыхнуў дзядзька Лукаш.

— Сардэчна вам дзякуем за пачастунак! — з рукой на грудзях, зусім не па-ваеннаму пакланіўся палітрук перад сялянкай. — Пара нам у дарогу. Будзем прабівацца да сваіх. Мы, лётчыкі, нам трэба ў паветра, трэба абараняць родныя прасторы. Збірай, брат, атрад! — звярнуўся ён да камандзіра.

На Грыбоўскім хутары пад лесам зноў стала ціха і спакойна, калі не лічыць таго грукату, які далятаў ад недалёкай шасейнай дарогі. Неўзабаве, быццам нечаканая маланка, праімчаліся нямецкія франтавыя часці. На танках, на аўтамабілях, на матацыклах. Зрэдку толькі пехатою. Ад здзіўлення і перапалоху сяляне ажно раты разяўлялі. Вось якія яны гэтыя германцы! Сапраўдныя д'яблы! У зялёнасініх мундзірах, з закасанымі рукавамі, з глыбокімі каскамі на галовах... І гэтыя іхнія арлы са свастыкай, з гэтым крыжам, неяк дзіўна паламаным... Д'яблы, сапраўдныя д'яблы, з пекла родам! Бабулькі і цёткі крадком хрысціліся, каб адагнаць ад сябе гэтую нячыстую сілу...

А на хутары пад лесам жыццё зноў памалу вярталася ў сваю спрадвечную каляіну.

— Вайна вайной, — распарадзіўся дзядзька Лукаш, — а мужыку, як Гасподзь Бог прыка-

(Працяг на стар. 8)

---

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Усе ніжэй названыя артыкулы змешчаны ў месячніку „Więź“, які выходзіць у Варшаве.

Jerzy Mikke — O kulturze politycznej Polaków i pewnych stereotypach. Nr 4/1978, s. 5—21.

Przygotowania do powszechnego soboru Kościoła Prawosławnego. Nr 4/1978, s. 93—94.

Odrodzenie prawosławia w diasporze. Nr 1/1980, s. 99—100.

Elżbieta Smykowska — By poznać prawosławie (recenzja książki ks. J. Pryszmonta „Życie chrześcijańskie jako realizacja zbawienia. Doktryna moralna biskupa Teofana Pustelnika“, ATK W-wa 1979). Nr 1/1980, s. 108—110.

Bogdan Burdziej — Filozofia w cieniu prawosławia (recenzja książki Wiktorii Krzemień pod tymże samym tytułem, wyd. przez PAX, W-wa 1979). Nr 6/1980, s. 134—137.

Wacław Hryniewicz OMI — „Kościoły siostrzane“. Po rozpoczęciu dialogu katolicko-prawosławnego. Nr 11—12/1980, s. 73—93.

Bohdan Skaradziński — Odnowa po białostocku. Nr 7—8/1981, s. 5—35.

Obrady katolicko-prawosławne w Wenecji. Nr 7—8/1981, s. 257—258.

Ewa Jabłońska-Deptuła — Religijna ideologia suwerenności narodowej w XIX wieku. Nr 4—5/1982, s. 6—22.

Marek Kusiba, Jerzy Muszyński — Ściana Wschodnia. Nr 7/1982, s. 101—115.

Wacław Hryniewicz OMI — Pierwszy owoc dialogu (katolicko-prawosławnego). Nr 1/1983, s. 39—50.

Bożena Łomacz-Neounia. Nr 1/1983, s. 82—90.

Bohdan Skaradziński — Determinanty kultury politycznej dwudziestolecia. Nr 11—12/1983, s. 5—24.

Marek J. Karp — Jak doszło do rozwodu Jadwigi z Jagiełłą (recenzja książki Jana Jurkiewicza „Rozwój polskiej myśli politycznej na Litwie i Białorusi w latach 1905—1922“, Poznań 1983), Nr 11—12/1983, s. 188—192.

Oleg Łatyszonak — Spojrzenie z boku (Shirin Akiner na Białorusinów). Nr 11—12/1983, s. 220—222.

**П. Байко**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Прысніўся мне сон. Я і сама ведаю, што ён нядобры. Толькі вось не ведаю, што канкрэтна ён абазначае.

Сніцца, што я ў бацькоў на вёсцы. І бацька мой вязе фурманку гною ў поле. Я гэтага гною не бачу ўва сне. Падумала, паеду з бацькам і я. Едзем, размаўляем, і бацька кажа: „Вось штосьці наш дзед так шпарка за работу ўзяўся“ (дзед даўно ўжо не жыве). І я адразу ўбачыла, як дзед пры дарозе так замашыста, хутка штосьці косіць. Едзем мы з бацькам на фурманцы ў напрамку могільніка. І не даязджаючы да могільніка, бацька павярнуў направа, ну, ужо на поле. І я з фурманкі саскочыла, не паехала далей, хоць едучы, я намервалася памагчы растрэсці той гной. Ну і канец сну.

**Марыя**

Марыя! Сон нядобры. Хоць ты гэтага гною ўва сне не бачыла, то ўсё ж ведала, што бацька яго вёз фурманкаю. Зрэшты, дастаткова ўжо і таго, што ехалі вы на фурманцы. Ужо гэта абазначала б нейкую няпэўную, хісткую справу, якая звязана будзе, бадай, з нейкай непрыемнасцю, бо была думка пра фурманку з гноем. Аднак, здаецца мне, што ў бацькі твайго справы пойдуць на лепшае. Аб гэтым сведчыў бы твой дзед-нябожчык. Можа гэта быць нейкая хвароба, з якой бацька выйдзе пераможцам.

**Астрон**

ЦІКАВІНКІ

## ПАМІЖ ЖЫЦЦЁМ І СМЕРЦЮ (2)

Толькі сто хвароб найчасцей з'яўляецца прычынай смерці, з іх 10 хвароб — у маладым і сярэднім узросце, а 85 — у старасці. Самыя небяспечныя — гэта ракавыя хваробы, хваробы сэрца і хваробы сасудаў. На гэтыя хваробы памірае 90 прац. людзей. Таму ўменне вылечыць рака і хваробы сасудаў прадоўжыла б жыццё на 7-10 гадоў, значыць да 80-85 гадоў. Так выходзіць з аблічэнняў спецыялістаў.

Самая актуальная задача медыцыны гэта запавольніць механізм старэння. Калі гэта не ўдасца, дасягненняў у медыцыне, лічы, не будзе і яна ўвогуле не пойдзе ўперад.

Цяперашнія спосабы лячэння захоўваюць старэйшых людзей ад раптоўнай смерці, але адначасова пакідаюць іх на цярпенне ў цяжкіх хваробах: рака, сэрца, суставаў, псіхічных. А фактычна ж заданнем медыцыны павінна быць, каб старасць як натуральны стан арганізма не была звязана з цярпеннем, а са спакоем і годнасцю.

Медыцына будучыні павінна развівацца ў двух напрамках — педыятрыі і герыятрыі (хвароб дзяцей і хвароб старых). Калі б удалося пазнаць гадзіннік смерці, навучыцца накручваць яго ход! З другога боку — кожны ведае, што арганізм родзіцца з прысудам смерці, што кожны з нас носіць у сабе код смерці.

Ці даўгавечнасць такая пажаданая? Ці яна прычыняецца да развіцця і ўдасканалення гатунку? Здаецца, што не!

Адзін вучоны ў апошнія гады адкрыў, што калі ў васьміногі выразаў вочную жалязу, яна перастала старэць і цікавіцца патомствам, жыла значна даўжэй.

Маючы доказы, што жыццё можна прадоўжыць за вызначаную біялагічную граніцу, пытаем, ці гэта можна рабіць без канца? Такая магчымасць выдаецца непраўдзівай, хоць адзін біёлаг гадаваў курыныя клеткі і яны дзяліліся (значыць развіваліся) у бесканечнасць, былі несмяротныя. Але чалавечыя клеткі так не могуць рабіць, яны маюць мяжу свайго развіцця. Напрыклад, клеткі чалавечага зародыша дзеляцца толькі 50 разоў. Значыць, у ядры клеткі зародыша знаходзіцца гадзіннік жыцця і яго даўжыні. Нованароджаны чалавек пачынае адразу і старэць. (авл)

## ВЫВЯДЗЕННЕ ПЛЯМАЎ

Пляме ад яйка даць высахнуць і асцярожна зняць яе тупым краем нажа. Запэцканае месца памыць цёплай вадой, калі тканіна шоўкавая, дадаць нашатырнага спірту. Для вывядзення плямак можна выкарыстаць таксама спірт. Пляму на шарсцяной тканіне змачыць гліцэрынай і змыць цёплым растворам мыльнага спірту. Гарачую ваду не ўжываць, таму што ёю пляму вывесці цяжэй. З шарсцяной тканіны высахшую пляму можна таксама вычысціць шчоткай, а след, які застаўся, знішчыць бензінам.

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

**У коле вясельнай абраднасці.**

Комплекс вясельных абрадаў і звязанага з ім фальклору належыць у чалавечым практычным і духоўным жыцці да з'яў найважнейшых. Вяселле гэта галоўная падзея ў жыцці чалавека. Ад яго пачынаецца новая якасць чалавечага існавання, якая дэтэрмінуе і гарантуе зараджэнне новага жыцця і з'яўленне на зямлі новай чалавечай генерацыі.

Людзі ад вякоў здавалі сабе справу з важнасці гэтай падзеі і таму знайшла яна такое вялікае адлюстраванне ў абраднасці і фальклоры, між іншым, і сярод беларусаў з усходняй Беласточчыны.

Вяселле — іншага тэрміну для акрэслення акту заключэння сужонства беларусы не ведаюць. У разуменні беларуса было яно жыццёвай з'явай найважнейшай і найпрыгажэйшай. Бадай, якраз гэтым фактам тлумачыцца імкненне нашых продкаў да „разбудовы" абраду, да максімальнага прадаўжэння яго ў часе і ўпрыгожання яго як найбагацейшай слоўнай каларыстычна-зрокавай дэкаратыўнасцю.

Беларускі фалькларыст Рыгор Шырма напісаў: „Вяселле — самы ўрачысты абрад у жыцці беларускага народа. Гэта своеасаблівая народная опера з пралогам, драматычнай кульмінацыяй і заўсёды шчаслівым заканчэннем. Народ стагоддзямі дасканаліў, калі так можна сказаць, лібрэта гэтае оперы, якая надзвычай багата насычана словамі, музыкай, танцамі, вострымі дыялагамі, гумарам".

Характар беларускіх вясельных урачыстасцей на ўсходняй Беласточчыне поўнасцю пацвярджае слушнасць сказанага Р. Шырмам.

Вельмі істотна тое, што вясельная абраднасць на Беласточчыне, па-за спецыфічнымі, характэрнымі для рэгіёнаў дэталямі, пакрываецца з агульнабеларускім вясельным рытуалам, што толькі пацвярджае абрадна-фальклорную цэласць беларускай народнай творчасці і беларускага духоўнага жыцця.

Трэба падкрэсліць, што спецыфічныя рэгіянальна-беластоцкія вясельныя элементы сведчаць, з аднаго боку, аб творчым характары беларусаў з усходняй Беласточчыны, якія ўносілі ў абраднасць свае ўласныя канцэпцыі. З другога боку гэта спецыфічнасць з'яўляецца вынікам пэўнага ўплыву з боку польскага фальклору. Праявы гэтага ўплыву адчуваюцца асабліва ў тых вёсках, якія непасрэдна мяжуюць з польскай этнічнай і моўнай стыхіяй.

Цікавае сцвярджэнне Рыгора Шырмы аб непаўторным багацці беларускага вяселля падказвае пытанне: ці гэтае выключнае багацце мае варункі і шанцы на далейшае існаванне? Праблема заключаецца ў тым, што маладое пакаленне, прадаўжальнік усіх беларускіх традыцый, усё часцей праяўляе сваю абыякавасць, а часам нават і пагарду да ўсяго таго, што было створана продкамі. З гэтага вынікае, што пакаленне гэта не толькі, як гэта рабілі папярэднікі, не ўзбагаціць вясельнай абраднасці і фальклору, але і давядзе да яго крайняга зубажэння. Ужо сёння цудоўная мазаікавая структура вясельнай абраднасці мае ў сабе фатальныя ўзломы, якія могуць давесці яе да поўнай катастрофы.

У такой сітуацыі родзіцца поўнасцю ўматываваная боязь, звязаная з тым, што сённяшняе пакаленне пяцідзесяцігодкаў будзе апошняй генерацыяй, якая памятае ўсе дэталі старога беларускага вясельнага абраду.

З гэтага факту вынікае неабходнасць максімальнага выкарыстання ўсіх тых членаў беларускай грамадскасці ў Польшчы, якія захоўваюць у сваёй памяці і элементы вясельнага абраду, і звязаныя з ім фальклорныя тэксты.

**А. Баршчэўскі**

Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### КУЛАКОМ БУХНЭ
(сямейная)




Кому вольно, кому вольно на гуліцу выйті?
Кому вольно та й поговорыті?
Деўкам вольно, деўкам вольно на гуліцу выйті,
деўкам вольно та й поговорыті.
Молодіцам, молодіцам ні такая воля:
дітя плачэ — колыбэлі хочэ.
Свіекор лежыт, свіекор лежыт то й ні покольшэ,
што й колыхнэ, то й кулаком бухнэ:
— Ой, спі, діте, ой, спі, діте, не прочынаючы,
мне старому ні докучаючы.

Ад Вольгі Нікановіч, 1889 года нараджэння, і яе дачкі Анны Комар, 1932 года нараджэння, вёска Макаўка гм. Нарва, запісаў у верасні 1983 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

(Працяг са стар. 7)

## ЛЯ РАЗБІТАГА КАРЫТА

заў, сваю работу трэба рабіць.

І спраўна ды згодна закончылі яны сенажаць, уладкавалі духмяную сухую траву ў засекі прасторнай клуні, а што не змясцілі там, склалі ў стог.

За гэтай гаспадарскай мітуснёю прайшло крыху часу, можа тыдзень, можа менш ці больш. Аднойчы надосвітку прыбег суседаў хлопец. Застукаў у акно. Яны яшчэ спалі. Толькі цётка Юля рыхтавала гаршкі з кормам для свінней, каб запарыць іх на пліце.

— Дзядзька Лукаш! — закрычаў хлопец устрывожаным голасам. — Казалі, каб вы і вашы сыны неадкладна з'явіліся ў нас!

Цётка Юля пазнала па голасу сына Дамавіцкага, іх суседа. Адарвалася ад гаршкоў і заглянула ў суседнюю ізбу.

— Чуеш, Лукаш, сын Дамавіцкага прыбег за табою!

Дзядзька Лукаш, пазяхаючы, неахвотна вылазіў з пасцелі.

— Які чорт яго там так рана прыгнаў! — адчыніў акно. — Чаго хочаш? — не надта прыязна буркнуў селянін.

— Немцы прыехалі, усіх мужчын збіраюць. Казалі, каб і вы з сынамі прыйшлі да нас на панадворак, — інфармаваў хлопец.

— Ну, добра, сказаў ты сваё ды сп... адсюль! — вылаяўся дзядзька Лукаш.

— Лукаш, бойся Бога! — упікнула яго жонка. — Чаго ты так да хлопца?

— І ты замаўчы, старая! — адпаліў Лукаш жонцы. — Мне падумаць трэба, як быць! Што ты думала? У гасціну яны нас клічуць?

— Дык можа ляпей дзе-лень вам схавацца? — запрапанавала жонка.

— Будзі хлопцаў! — загадаў гаспадар, прапусціўшы міма вушэй жончыну заўвагу. Хлопцаў будзіць не давялося. Яны ўжо самі павыскаквалі з ложка, пачуўшы гэтую незвычайную мітусню ў іх бацькоўскай хаце.

„А можа і сапраўды чмыхнуць нам у лес?" — падумаў дзядзька Лукаш і загадаў, каб жонка хуценька нарыхтавала торбачку з ядою, а сам пачаў апранацца ды падганяў да гэтага таксама сваіх сыноў.

За агароджай панадворка, ля самай ускраіны лесу перапыніў іх рашучы гарклівы голас:

— Хальт! Хэндэ хох!

Упершыню ў сваім жыцці ўсе трое пачулі гэтую нямецкую каманду і не разумелі, не ведалі, што трэба спыніцца і падняць рукі. Аднак спыніліся. Дзядзька Лукаш адвярнуўся і ўбачыў перад сабою нямецкага салдата, які цэліўся ў яго вінтоўкай.

— Хэндэ хох! — зноў закрычаў немец і канцом вінтовачнага штыка паказаў сялянам, чаго ён ад іх патрабуе. Дзядзька Лукаш зразумеў і падняў рукі. Следам за бацькам пайшлі сыны. Немец штосьці шваргатаў, штосьці крычаў, з чаго гэтыя беларускія сяляне зразумелі толькі, што гаворыць ён аб нейкіх камуністах і яўрэях. Сяляне стаялі з паднятымі рукамі і не ведалі, што ім рабіць. Тады немец пачаў папіхаць іх вастрыём штыка. І такім чынам апынуліся яны на прасторным панадворку ў Дамавіцкага. Там ужо таўпіліся дарослыя мужчыны з цэлых Грыбаўцоў. Наглядалі за імі нямецкія салдаты.

„Чаго яны ад нас хочуць? — падумаў дзядзька Лукаш. — Няўжо?.." — найгоршая трагічная здагадка калючым болем адгукнулася ў яго сэрцы. Пачаліся пакутлівыя хвіліны чакання. І нам таксама прыдзецца пачакаць да наступнага тыдня.

**Віктар Рудчык**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Міхаіл Ханінаў

## За наша шчасце

I я салдатам
Пахадзіў па свеце,
Не раз граміў
няпрошаных гасцей,
Каб радаваліся
і дужэлі дзеці.
О, як люблю маленькіх
я дзяцей!

Я быў салдатам.
Дагаралі стрэхі,
На сотні вёрст
ляжаў счарнелы снег,
Дзіцячага не чуў
гадамі смеху.
З тае пары
люблю дзіцячы смех.

Я быў салдатам.
Сцюжы замяталі
Дарогі спапялелыя вайны.
Тады ніколі
дзеці не спявалі.
Як я люблю,
калі пяюць яны!

Я быў салдатам.
Помню дымны вецер,
Магілы набрацімаў
дарагіх,
I не забыў,
як паміралі дзеці.
А я люблю іх
дужых і жывых.

Я быў салдатам.
Праз агонь і холад
Ішоў да Перамогі
напралом
Дзяцей касіў
блакадны люты голад,
А я люблю іх
бачыць за сталом.

Я быў салдатам.
Помню ў сорак пятым
У свінцовым гуле,
У полымі варожага агню
Вясёлыя тады змаўкалі
гульні
Як я люблю
дзіцячую гульню.

Я быў салдатам.
Не забыць ніколі
Атаку нашу
і гарматны гром...
Дзяцей фашысты
расстралялі ў школе,
А я люблю дзяцей
за букваром.

Я быў салдатам.
Помню ў сорак пятым
Дзень Перамогі
і фашызму крах.
Я з цяжкім развітаўся
аўтаматам
I ўзняў дзіця
высока на руках.

Шмат я салдатам
Пахадзіў па свеце,
Таму люблю мацней
і гарачэй,
Калі вакол мяне
смяюцца дзеці
З іскрынкамі
даверлівых вачэй.

*Пераклаў з калмыцкай мовы*
*С. Грахоўскі*

### МІР

*Нам трэба мір,*
*не трэба нам вайна,*
*Бо колькі гора*
*ўсім нясе яна.*
*А дзеці хочуць бегаць*
*і гуляць.*
*Навошта ў іх*
*дзяцінства адымаць!*

*Трывогі памятаем*
*той вайны,*
*I памятаем, як ішлі*
*на бой сыны*
*Радзіму мілую*
*абараняць*
*I мір, і шчасце*
*дзецям адстаяць.*

*I ў тых баях*
*загінула нямала —*
*Радзіма ўсіх на дапамогу*
*звала.*

*Чакала потым доўга*
*маці сына,*
*А сын у хату*
*не вярнуўся з-пад Берліна.*

*Вяснова сонца*
*над зямлёю свеціць,*
*I могуць спаць, гуляць*
*спакойна дзеці.*
*Не трэба, каб пагасла*
*сонца ў хмарах,*
*Народы свету*
*жыць у міры мараць.*

**Святлана Андрушкевіч,**
**вуч. 7 класа з БССР.**

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ!

Добры дзень, вясна-красуня!
Добры дзень, чароўны май!
У светлых сонейка праменнях
Добры дзень, мой родны край!

### ВЕСНАВЫ МАЛЮНАК

Белы бусел плавае над лесам.
Сонца сыпле золата паток.
Звоняць птушак песні-пералівы.
На цымбалках грае ручаёк.

На мураўцы бегаюць мурашкі.
Узад і ўперад поўзаюць жучкі.
Павылятаі ўжо на поле пчолкі.
У паветры ўюцца матылькі.

**С. Новік-Пяюн**



**Гарцэры са школы ў Белавежы абмяркоўваюць план далейшых дзеянняў са сваёй настаўніцай-дружыновай. Фота Я. Чэрнякевіч.**

**ДА 40-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ НАД ФАШЫЗМАМ**

## УДЗЕЛУ Ў АПЕРАЦЫІ НЕ ПРЫМАЛІ

**(Пачатак у папярэднім нумары)**

Ноч ціхая, цёплая, і хоць не месячная, але даволі-такі светлая. Ва ўсякім разе крокаў за пятнаццаць-дваццаць усё добра відаць. Таму трэба быць асабліва асцярожным. Ахова ў гарнізоне хаця і не вельмі моцная, але два пасты — на адным і на другім канцы вёскі — стаяць кругласутачна. Вартавыя нават час ад часу асвятляльныя ракеты пускаюць.

I хлопцы, Ваня з Рыгоркам, каб не трапіць у зону іх святла, паўзуць, шчыльна прыціскаючыся да зямлі. Ад зямлі пахне жытнішчам і асотам. Калючкі асоту балюча драпаюць локці і твар.

Хлопцам толькі б дабрацца да яра. А там іх сам чорт не знойдзе, бо толькі ім адным вядома сцяжынка, што вядзе цераз непралазны хмызняк.

Хлопцы паўзуць, каб за ярам падняцца ўжо смела, на ўвесь рост, і бегчы ва ўмоўленае месца на ўзлессі.

Там іх будуць чакаць. Правільней, там іх чакаюць ужо каля двух тыдняў. Так было дамоўлена з дзядзькам Тарасам.

Месяц назад яны сустрэліся з дзядзькам Тарасам у яры і спачатку не пазналі. Да вайны Тарас Іванавіч Хвашчэўскі, старшыня заямінскага калгаса, насіў вусы і бараду. Старыя жартавалі з яго: маўляў, цяпер не модна трыццацігадоваму мужчыну разводзіць раслііннасць на твары, маўляў, дзяды і тыя ледзь не штодня голяцца. А ён толькі смяяўся ў адказ: „Я ж старшыня і павінен хоць чымнебудзь вылучацца..."

Ён знік з вёскі напярэдадні прыходу немцаў.

А тут, у яры, перад хлопцамі стаяў бязвусы мужчына ў лёгкім гарнітуры і з усмешкай гаварыў:

— Ну вось мы і сустрэліся.

Адкуль ён з'явіўся, хлопцы не заўважылі. Нібы з-пад зямлі вырас.

— Не пазнаеце?

— Не-е... — стараючыся схаваць за спіну вінтоўку, прамармытаў Рыгорка і зрабіў крок назад.

— А ты добра прыгледзься, — ужо звяртаючыся да яго аднаго, сказаў мужчына.

— То ж дзядзька Тарас! — амаль крыкнуў Ваня.

— Ён самы і ёсць. Ну, здаровы былі, — як роўным, паціснуў рукі. — Што добранькага чуваць, навіны якія?

Дзядзьку Тараса цікавіла ўсё: колькі немцаў у Заямным, дзе яны размешчаны, у якіх месцах выстаўляюць ахову, чым займаюцца, як адносяцца да мясцовага насельніцтва, ці ёсць здраднікі сярод заямінцаў. Словам усё-ўсё хацеў ведаць былы старшыня калгаса, а зараз невядома хто.

Прагаварылі з ім хлопцы ледзь не да цямна. Асабліва ўсхвалявала дзядзьку вестка аб

**(Працяг на стар. 10)**

НАВУЧЫЦЕСЯ СПЯВАЦЬ

# КАЛІНА ЦВІЛА




**Словы Валянціна Мыслівца** **Музыка Алега Чыркуна**

*У садзе каліна бела цвіла...*
*Маці на службу сына вяла:*
*Будзь героем, будзь малайцом,*
*Будзь ты, сынку, храбрым байцом.*

*Пад акном зялёны*
*Клён сваё цвярдзіў:*
*Бацька твой з будзённым*
*У паход хадзіў.*

*У садзе каліна бела цвіла...*
*Унука бабуля праводзіла:*
*Будзь героем, будзь малайцом,*
*Будзь жа, унучак, храбрым байцом.*

*Стромкая таполя*
*Журыцца адна:*
*Не вярнула дзеда*
*Чорная вайна, чорная вайна.*

*У садзе каліна бела цвіла...*
*Хлопца на службу міла вяла:*
*Будзь героем, будзь малайцом,*
*Будзь, каханы, храбрым байцом*

*А на грэблі вербы*
*Шэпчуць зноў і зноў:*
*Верым, ты са славай*
*Вернешся дамоў, вернешся дамоў.*



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Пішуць да Цябе вучні восьмага класа са школы ў Райску. Мы хочам Табе расказаць аб нашых занятках па беларускай мове.*

*У мінулым годзе ў нашай школе мы займаліся ў беларускім гуртку. На занятках яго мы вывучалі беларускія сцэнічныя творы. Кіраўніком гуртка была настаўніца беларускай мовы Валянціна Мамотка.*

*Мы развучылі п'есы „Старыя" і „Пярэстая красуля". Адну з іх — „Пярэстую красулю" — мы паказалі жыхарам вёскі Плюцічы ў сувязі з Днём жанчын, а п'есу „Старыя" — жыхарам Райска.*

*У гэтым годзе ў нашай школе няма беларускага гуртка. Аднак мы развучылі п'есу „Конская кніжка". П'есу гэтую мы паказалі ў бацькоўскі дзень, а таксама ў мясцовым Доме культуры ў сувязі са святам жанчын. Наша пастаноўка ўсім спадабалася.*

**Твае чытачы, вучні восьмага класа са школы ў Райску.**

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Мы вельмі любім чытаць Тваю газету. Да Цябе пішуць дзеці пісьмы. Мы таксама вырашылі напісаць да Цябе.*

*Наш клас вучыцца беларускай мовы. На ўроках беларускай мовы мы чытаем, пішам, спяваем песні. Цяпер развучылі народную песню „Саўка ды Грышка".*

*Апрача „Зоркі", мы выпісваем „Вясёлку". Там таксама шмат цікавых казак, апавяданняў і вершаў. З захапленнем мы чытаем „Зорку" і „Вясёлку".*

*„Зорка", друкуй часцей беларускія песні з нотамі. Будзем Табе ўдзячны за гэта.*

**З найлепшымі пажаданнямі вучні 3 класа ў Нарве.**

(Працяг са стар. 9)

### УДЗЕЛУ Ў АПЕРАЦЫІ НЕ ПРЫМАЛІ

трафейнай зброі, што збіраюць гітлераўцы.

— Зброя — гэта добра, гэта вельмі добра, — некалькі разоў паўтараў ён. — Гэта якраз тое, што трэба. І кажаце, склад гэтай зброі яны ў маёй хаце зрабілі? Што ж, тым горш для іх. Толькі б вывезці, гады, не паспелі. Вы, хлопцы, вось што — сачыце за імі, немцамі. Сачыце пільна і ўсё бярыце на заметку. Нам вельмі важна, колькі і якой зброі яны сабралі. Хаця б прыблізна. Таму будзем трымаць з вамі сталую сувязь. Месца сустрэчы — на ўзлессі каля Сцяпанавай сажалкі. Ведаеце, дзе Сцяпанаў хутар стаяў? Ну і добра. Можаце прыходзіць туды ў любы час з вечара да ранку. Там вас будуць чакаць. Умоўны сігнал — двайны крык савы. — Дзядзька Тарас склаў далоні і ціха крыкнуў па-савінаму. — Умееце так?

— Умеем, з малых гадоў яшчэ. — цыркнуў скрозь зубы Рыгорка...

І вось сёння гэты сігнал трэба было нарэшце прымяніць. Наблізіўшыся да сажалкі, Рыгорка двойчы крыкнуў. І ў адказ яму даляцеў таксама падвойны крык савы. Потым з-за тоўстай ліпы выйшаў чалавек з аўтаматам на грудзях і строга запытаў, адкуль хлопцы і як іх зваць.

Ваня з Рыгоркам адказалі. Аўтаматчык запрасіў іх прысесці на паваленае дрэва, сам сеў побач і падрабязна распытаў аб усіх вясковых навінах. Калі гаворка была закончана, падняў і паціснуў хлопцам рукі, як тады ў яры дзядзька Тарас, быццам яны былі дарослыя.

— Малайцы. Дзякую. Неўзабаве чакайце нас.

— Каго гэта — нас? — запытаўся Ваня. Ён намерваўся задаць гэтае пытанне яшчэ дзядзьку Тарасу, тады, як сустрэліся ў яры, але неяк не асмеліўся ці, дакладней кажучы, пасаромеўся. А ў гэтага незнаёмага не сорам і запытацца.

— Хто мы такія, пытаеш? — засмяяўся аўтаматчык. — А з кім ты толькі што гаварыў, каму ваенныя тайны немцаў выдаў?

— Даруйце, — Ваня адчуў, што твар яго залівае густая чырвань. — Але ж дзядзька Тарас нам нічога канкрэтнага не сказаў тады. Папрасіў толькі, каб...

— Дзядзька Тарас і так не сумняваўся, што вы зразумелі, хто ён, — перапыніў яго аўтаматчык. — Дзядзька Тарас наш партызанскі камандзір. Усё ясна? А цяпер давайце яшчэ раз, —працягнуў ён руку. — Пара. Не паспееш агледзецца, як пачне днець. Будзьце асцярожныя.

Вярталіся хлопцы, быццам на крылах ляцелі. Каб не папярэджанне партызана быць асцярожнымі ды не рэдкія ўспышкі нямецкіх ракет, мабыць, ускочылі б у вёску з нястрымным галёканнем...

...А на наступную ноч на Заямнае наляцелі партызаны. Немцы не чакалі іх, нават не маглі ўявіць, што нейкія там лясныя бандыты здольны на такую дзёрзкасць — напасці на салдат фюрэра, салдат, якія паставілі на калені ўсю Еўропу. Старому унтэру Гансу Фогелю сніласа ў тую ноч родная Баварыя, уласная ферма і ўнук. Пастухова ўнук пачаў мяняцца, перараджацца і проста на вачах ператварыўся ў беларускага абарванца Ваню, які нечым крыху падабаўся унтэру. Вось Ваня дастаў з кішэні яйка, працягнуў яго Фогелю і папрасіў цыгарэту. Фогель узяў яйка і з жахам убачыў, што ніякае гэта не яйка, а руская граната-лімонка. Граната пачала шыпець у руцэ, расці, павялічвацца і раптам ірванула так, што Фогель аж грымнуўся на зямлю...

Так, ён ляжаў на зямлі, правільней на падлозе казармы. І не ў сне, а на яве. Вакол трашчала, рвалася, успыхвала. Стагналі, енчылі параненыя, бездапаможна лаяліся ўцалелыя.

На досвітку з Заямнага ў бок лесу пацягнуўся ладны абоз. Нямецкія ламавікі везлі зялёныя фуры, да верху нагружаныя разнастайнай зброяй і боепрыпасамі. Суправаджалі абоз людзі з чырвонымі стужкамі на шапках. На чале быў дзядзька Тарас.

Ваня з Рыгоркам стаялі ў канцы вуліцы і махалі партызанам услед, пакуль тыя не зніклі ў нізіне.

І ніхто з заямінцаў нават не падазраваў, што гэта дзякуючы ім, Ваню і Рыгорку, удалося партызанам так добра правесці аперацыю па захопу зброі.

Ды зрэшты заямінцы асабліва не памыляліся — непасрэднага ўдзелу ў аперацыі хлопцы не прымалі.

А было гэта на першым годзе вайны.

**Яўген Курто**

**·А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А·**



**Дапамажы эскімосу як найхутчэй даплысці лодкай да дзяўчынкі, якая апынулася на льдзіне.**



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Bialystok ul Wesolowsk... 1

## УДАЧЛІВЫ

Установа, дзе працаваў Сямён Міскін, знаходзілася далекавата ад дому. Кожны раз, калі ён выходзіў з аўтобуса, натоўп людзей, якія нецярпліва чакалі транспарту, кідаўся на штурм дзвярэй.

— Я дабіраўся амаль гадзіну сюды, дзе працую, — разважаў Міскін, — а яны — адсюль едуць якраз туды, дзе я жыву. Хіба гэта разумна? Колькі часу дарэмна ў дарозе траціцца. А была б служба побач з домам, можна было б пазней паспаць, дома абедаць і нават адпачыць пасля абеду.

Сямён Міскін доўга выношваў планы, як наблізіць месца работы. Спачатку перавёўся ў цэнтр горада — было ўжо напалову бліжэй. Пачаў працаваць на новым месцы і заадно прыглядацца, куды б зрабіць наступны скачок. І хутка знайшоў-такі работу на сваёй вуліцы. Узрадаваўся. Праўда, работа была не па спецыяльнасці, але такой бяды! Кінуўся Сямён Міскін на новае месца, і кіраўнік адрэкамендаваў яго супрацоўнікам:

— Наш новы работнік... Прашу любіць і шанаваць.

— Удачлівы вы чалавек, — сказалі яму супрацоўнікі. — Своечасова да нас. Нават стол вам тут не паспелі паставіць. Не трэба багаж папераў збіраць. Сёння пачынаем пераязджаць у новы будынак. Цудоўнае, ведаеце, месца! На ўлонні! Свежае паветра, лес навокал. Далекавата, праўда, — за горадам. Але службовы аўтобус будзе адвозіць туды раніцай, а ўвечары — прывозіць. Яшчэ давядзецца крыху пешшу размінацца. Ды яно не больш як кіламетр будзе. Так што ў добры час, таварыш Міскін! Дапамагайце грузіцца!..

**Васіль Феранц**



— Дасканала! Творча спелы конь!






Там, дзе аўтамабіль.

## НЯЎДАЧНІК

— Я змучаны прыходжу з працы, а ты нават не хочаш са мною сварыцца.

## ЗАГАДКА

Калі жанчыны найменш размаўляюць?
— У лютым — кароткі месяц.

## ГУМАР З БАРАДОЮ

## ПРЫЗНАЎ

Партызаны прывялі ў лагер фашыста, які рабаваў у вёсцы.
— Яйка... мяска... кур... свін... — лапатаў ён.
— Свіння ты сам! — не вытрымаў дзед Міхей.
— Я... я... — падхапіў фашыст.

## МАЦІ ВЕДАЕ

Ідзе задрыпанец і кажа:
— Маня, запрагні свайго Міхаля дадому. Усё-ткі чалавек.
Выбягае сынок і адказвае:
— Дзядзьку, маці ведаюць. Яны кажуць, каб тата трохі прасохлі.

## У ВЫШЭЙШЫХ СФЕРАХ

— Чаму на маім пісьмовым стале стаяць ружы?
— Таму што сёння дзень тваіго шлюбу, — адказвае прафесару жонка.
— О! Не забудзь мне напомніць, калі будзе дзень тваіго шлюбу. Я таксама падарую табе што-небудзь прыемнае...

## ЗАДАННЕ

— Элачка, назаві будучы час ад дзеяслова „кахаць".
— Выйсці замуж.



**Браўся за ўсё, таму што не ведаў, з чаго пачынаць.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Амерыканскі нафтавы магнат прыехаў з жонкай у Парыж. Спыніўшыся перад Эйфелевай вежай, ён паківаў галавой і сказаў жонцы:
— Калі я быў тут гадоў дваццаць назад, гэтая буравая вышка ўжо стаяла. Але да нафты яны да гэтага часу не дайшлі...

*

— Калі загарэўся дом, я схапіўся, уляцеў у суседні пакой і вынес на руках цёшчу!..
— Не засмучайся, Гастон, у такіх абставінах лёгка згубіць галаву.

*

Факір з сынам прагульваліся па вуліцы. Раптам хлопчык наступіў на цвік. Бацька тузануў яго за вуха і сказаў:
— Ты толькі і думаеш аб забаве!

## ДЗЕ МОЙ ЗЕНІТ

Шукаючы апраўдання
Сваіх эратычных няўдач,
Напінаю думку,
Аж трашчыць жыла:
Чаму калісьці гаварылі:
— Куды прэшся, шчанё? —
А цяпер рагочуць:
— Куды лезеш, гарыла?!

**Васіль Петручук**

З „Весніка Задрыпоніі"

## ПАКРАЖА

Нядаўна з мастацкага фонду было ўкрадзена палатно мясновага мастака Малярчука „Майстар Х. наладжвае размеркавальны вал". Як устанавіла праведзенае следства, прычынай пакражы была нястача запчастак.

## КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

Калі вам не хочацца чытаць тоўсты раман — дачакайцеся экранізацыі.



З чаго смяюцца суседзі.




„Паехала да маці. Абед знойдзеш у кулінарнай кнізе на 34 старонцы. Твая Эма".



Шлях у навуку.

## КУРЁЗЫ

## КАРБЮЗЬЕ

Калі знакаміты Ле Карбюзье праектаваў дом-вежу з круглымі пакоямі, яго спыталі, чым выклікана такое архітэктурнае рашэнне.

— У дзяцінстве мяне часта ставілі ў кут, — прызнаўся вялікі дойлід.

## КЛІЕНТ — НАШ ПАН

Аб'ява ў італьянскай газеце аб прыёме на курсы паскоранага абучэння японскай мове:

„Плата за курс 200000 ліраў. Уносіцца перад пачаткам заняткаў, але калі вы не будзеце задаволены, дык зможаце патрабаваць свае грошы назад, але ўжо па-японску".

## САЮЗНЫЯ ДЗЕЦІ

На дошцы аб'яў каля амерыканскай казармы ў баварскім горадзе Швайнфурце, паведамляе часопіс „Шпігель", вісіць аб'ява: „Ехаць паволі! Дзіцячая пляцоўка! Небяспека няшчасных выпадкаў! Хуткасць 20 кіламетраў — за выключэннем аўтамашын ЗША".

Як бачым, нават дзяцей сваіх саюзнікаў не шкадуюць амерыканскія вайскоўцы.




**Хто гаворыць усё, што думае, той не думае, што гаворыць.**